Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 9. Вільня, 2 траўня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Аб справах культурных.

Перад беларускім нацыянальным рухам стаіць адна вялізарная і нявырашаная яшчэ проблема, — проблема росту беларускае культуры, ці іначай кажучы, проблема вызваленьня беларускае душы ад гістарычных напластаваньняў няволі.

Гэтая проблема на цэлы час бліжэйшае будучыны будзе найгалоўнейшаю і самаю актуальнаю, бо яна ахапляе сабою ня толькі пытаньне беларускае школы і асьветы наогул, ня толькі пытаньне літэратуры, тэатру, прэсы, ня толькі пытаньне царквы і касьцёлу і лучнасьці беларусаў - каталікоў з праваслаўнымі, але і пытаньне агульна-чалавечай вартасьці беларускага слова, беларускае думкі і наогул вартасьці беларускага творчага духу. У агульнай сям'і народаў беларускі народ мусіць знайсьці сваё месца, мусіць зразумець сваю творчую ролю. Нашаю задачаю зьяўляецца даказаць высокую цэннасьць нашую, як аднаго з аддзелаў культурнага чалавецтва, бо пакуль мы ня вырашым гэнае задачы, пакуль будзем валачыся ў хвасьце, дык ня можам разьлічаць ні на сваё шчасьце, ні на свой росквіт і пачэснае месца пад сонцам.

Няма чаго заплюшчаць вочы на нашую сучаснасьць. Мы маем пракокаў нашага адраджэньня, маем сваіх Янку Купалу, Якуба Коласа, але ня маем яшчэ сваіх Міцкевічаў, свайго Шэўчэнкі. Мы маем першыя расткі нашае школы, але ня маем свае навукі і сваіх вучоных. Мы маем сваіх землеробаў, але ня маем кадру сваіх аграномаў і г. д. і г. д.

І якую-б галіну нашага жыцьця мы ні ўзялі, дык усюды бачым нашую нясьпеласьць, нашую слабасьць і ня можам заімпонаваць нашым суседзям і змусіць іх лічыцца з намі, як з народам творчым, з народам вольным душою, з народам, якога нельга абмінаць на ніве палітычнага, эканамічнага, культурнага і наогул грамадзкага жыцьця.

І вось прад намі ўсімі стаіць сягоньня паважная задача: Ня гледзячы на цяжкія варункі, зьвязаныя з падзелам Беларусі, стварыць такія абставіны, такія формы для нашага нацыянальнага руху, якія-б далі нам магчымасьць найлягчэй і найхутчэй падняць наш культурны ровень і нацыянальную сьвядомасьць. Нам патрэбны такія варункі арганізованага грамадзкага беларускага жыцьця, якія далі-б магчымасьць концэнтрацыі ўсіх здаровых творчых сілаў народу і спрыялі-б крышталізацыі народнае беларускае душы, спрыялі-б росквіту, росту і паглыбленьню нашае роднае заняпалае беларускае культуры.

І вось тут, кажучы аб гэтых варунках і формах народнага беларускага руху, ня можам не закрануць таго галоўнага прынцыповага пытаньня, якое мы ўжо раз парушылі на старонках нашае

часопісі ў артыкуле „Байкот ці супрацоўніцтва“, і якое для бліжэйшага этапу нашае гісторыі мае вялізарнае значэньне. Геніяльны украінец Шэўчэнка, разважаючы калісьці аб тым, якім шляхам павінен ісьці украінскі народ, каб вызваліцца з цемры і няволі сказаў: „Чужого вучэцеся і свайго ня чурайцеся“! — Гэта былі вешчыя словы, словы прарока і праваддыра украінскіх думаў, якія ня трацяць свае вартасьці ніколі і справядлівы для кожнага народу; і асабліва для нашага Беларускага Народу.

Ці байкатаваць мы павінны іншыя культуры, ці вучыцца ад іх, высмактаць усё найлепшае, што ў іх ёсьць? Мы жывём у Польскай дзяржаве. Маем суседні з намі польскі народ і будзем суседзямі вечна. І бязумоўна пры нашых варунках для нас найбольш актуальным зьяўляецца пытаньне адносін нашых да польскае культуры, з якою мы на кожным кроку спатыкаемся.

Ці байкатаваць Польскі Унівэрсытэт і польскую навуку, ці ісьці туды, ісьці упарта, разьбіваючы ўсе прашкоды, якія спатыкаюцца на гэтым шляху? Сорам ставіць такое пытаньне, але трэба ставіць яго, бо ёсьць шмат у нас такіх „псэўдавучоных“ і „псэўда-палітыкаў“ — якія лічылі-б за вышэйшае шчасьце, каб беларускі рух і беларускае культура варылася ў сваім уласным саку ізоляцыі і, Божа барані, каб ніводзін беларус не пераступіў парогу свае хаты і тае мяжы гістарычнага «гэтто», якім быў абкружаны дагэтуль беларус і якім хочуць абкружыць яго і надалей розныя беларускія факіры і дактары чорнае і белае магіі. Нявраз і ня два, а шмат-шмат разоў трэба высьвятляць перад народам пустыя, бессэнсоўныя, шкодныя брэдні «байкатыстых» — гэтых бязмозгіх фокусьнікаў беларускае справы, гэтых гора-манапалістых, якія дрыжаць пры аднэй думцы, што вось-вось адчыніцца вакно беларускае хаты і туды пальецца струя сьвежага паветра...

Беларуская культура ня стане на ногі, не дасягне агульначалавечых вышыняў, Беларускі Народ не навучыцца лепей працаваць і тварыць цэннасьці, пакуль будзе ўсё і ўсіх без разбору байкатаваць. І як-бы нас ні хрысьцілі — ўсё роўна будзем казаць і прапаведваць народу тое, што дасьць яму карысьць.

Будзем казаць яму: Шануй і захоўвай багатыя скарбы свае, сваю мову, сваю песьню, казку і легэнду, сваю культуру, але калі ты беларускі поэт і пісьменьнік і пішаш дрэнныя вершыкі ды апавяданьні, дык сядзь за кніжку і пачытай вершы паляка Міцкевіча, павучыся ў яго, як любіць свой народ і як складаць гэтыя самыя вершы. Калі ты артысты—вучыся. Калі ты хочаш быць аграномам, доктарам, адвакатам, інжынерам, адным словам, калі ты хочаш прынясьці запраўдную карысьць свайму народу і быць будаўнічым культуры, — ня бойся польскага унівэрсытэту. Не зьядуць там цябе! Ідзі туды! Штурмам бяры польскую навуку, але будзь беларусам. Калі ты хочаш быць коопэратарам і палепшыць сягоньня дабрабыт селяніна, дык ідзі ў коопэрацыю, якая ёсьць, ахапляй яе сваёю роднаю стыхіяй, вучыся. Калі хочаш каб абшарнік ня скідаў на тваю шыю лішніх падаткаў, дык ідзі ў соймік, у самаўрад і там вучыся, як гаспадарыць. Не праз байкот і ізоляцыю,

---

# Успаміны з Пэрсіі.

(*Гл. № 8 „Б.Д.“*).

Але ня толькі птушкі знаходзяць сабе прытулак і жыр на абшарах Энзэлійскае затокі. Водныя прасторы яе кішаць масай рознага гатунку рыбы, якая падчас нерасту наплывае з Каспійскага мора цэлымі хмарамі, дзеля гэтага Энзэлійская затока зьяўляецца запраўдным, вельмі цэнным скарбам Пэрсіі. Аднак пэрсы мала карыстаюцца з гэнага багацьця. Права лоўлі рыбы пэрсідзкі ўрад прадаў маскоўскім капіталістым, якія ў асобе Акцыянэрнага Таварыства Ліанозаўскіх рыбных промыслаў, вядуць эксплёатацыю гэных найбагацейшых у сьвеце рыбных абшараў. Багацтва Энзэлійскай затокі палягае ня толькі на вялікай колькасьці рыбы, але і на тым яшчэ, што тамака водзяцца вельмі цэнныя гатункі рыбы, якія, як тавар, знаходзяць сабе збыт на ўсіх рынках Эўропы і далёка за межамі яе, як напрыклад, сёмга, беларыбіца, асятры і шмат іншых.

Ліанозаўскае Таварыства пры эксплёатацыі рыбных абшараў мае дзьве задачы: першую — гэта злавіць рыбу і другую—гэта консэрвацыю злоўленай рыбы, альбо, кажучы йначай, захоўваньне яе ў працягу даўжэйшага часу так, каб яна не псавалася і была здатнай да яды.

Ловяць рыбу ў Энзэлі сеткамі, найчасьцей падобнымі да нашых трыгубіц.

Сеткі гэныя ў значным ліку кідаюць у ваду і праз некалькі часу дастаюць іх з багатай здабычай. Сеткі, лодкі і ўся рыбалоўная прылада зьяўляецца маемасьцю Ліанозаўскага Таварыства і рыбакамі пэрсамі таварыства карыстаецца толькі, як рабочай сілай.

а толькі праз сваю актыўнасьць і супрацоўніцтва можам стаць вышэй. І, пры нашых сучасных варунках, шлях гэты — найвярнейшы шлях да вырашэньня тае галоўнае проблемы, якая стаіць перад намі, проблемы росту і разьвіцьця беларускае сілы і культуры, якую трэба вызваліць ня толькі ад гістарычных напластаваньняў няволі, але і з чэпкіх рук розных майстроў і факіраў беларускае справы.

---

МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН.

## Нашыя фокусьнікі.

Быў час, калі ў Вільню наплывалі цэлыя хмары фокусьнікаў, якія, тытулуючы сябе то дактарамі чорнай і белай магіі, то індыйскімі факірамі, ці там якімі іншымі шумлівымі, фантастычнымі і незразумелымі для шырокіх масаў народу прозьвішчамі, ў сажнёвых абвестках, расклееных па ўсім горадзе, расказвалі аб сваёй вялікай навуцы, аб сваіх здольнасьцях і талентах рабіць гэткія рэчы, якія пераступаюць межы найбуйнейшай фантазіі.

Паводлуг гэных абвестак, яны і адгадваюць думкі людзей і могуць прабіць сябе наскрозь нажамі і быць цэлымі, здаровымі і жывымі, іх і куля не бярэ і агонь ня паліць і ў вадзе яны ня тонуць—адным словам, самыя запраўдныя чудатворцы, якія на заказ з белага могуць зрабіць чорнае, з дня ноч. І народ, заманугы гэткімі абвесткамі, зьбіраўся цэлымі масамі на прадстаўленьні і бачыў уласнымі вачамі дзівы-дзіўныя: бачыў свае разгаданыя думкі, бачыў людзей жывымі пасьля расстрэлу, бачыў іх прабітымі наскрозь без праліцьця крыві і, бачачы ўсё гэта, прымаў, дзеля свае цемнаты, звычайных шарлатанаў за нейкую вышэйшую істоту.

Тымчасам фокусьнікі, згробшы ў свае кішані грошы лёгкаверных людзей, выяжджалі на новы жыр у іншае месца. Але паволі людзі пачалі лавіць іх на ашуканствах і, дазнаўшыся гэткім чынам, што цуды іх нічога болей, як толькі звычайная лоўкасьць рук, перасталі цікавіцца штучкамі фокусьнікаў, так што заработкі іх зрабіліся зусім благімі і бедныя фокусьнікі проста ня мелі з чаго жыць.

І вось у тым часе, калі фокус, як прафэсія, збанкрутаваў на падмостках балаганаў і цыркаў, дык паўстала новая катэгорыя фокусьнікаў, — фокусьнікаў палітыканаў. Яны так сама, як і іх папярэднікі, балаганныя фокусьнікі, называюць сябе рознымі шумлівымі прозьвішчамі, дактарамі чорнай і белай магіі і ўсіх навук, так сама, як і балаганныя фокусьнікі, расказваюць аб сваіх вялікіх навуках і аб сваіх здольнасьцях і талентах тварыць над‘звычайныя рэчы.

Паводлуг гэных расказаў, яны таксама і ў вадзе ня тонуць і ў агні не гараць, таксама ведаюць нейкія чароўныя, сакрэтныя словы, пры помачы каторых могуць рабіць над‘звычайныя рэчы, напрыклад, бяздольнаму—даць шчасьце, з бедака — зрабіць мільянэра, з безьзямельнага — абшарніка, з белага — чорнае, з дня — ноч, адным словам, усё тое, што і іх балаганныя таварышы.

Жрацы гэнай прафэсіі, прафэсіі фокусьнікаў-палітыканаў, рэкрутуюцца з розных народаў і розных нацыяў. Паміж іншымі, ёсьць і нашыя беларускія фокусьнікі. Але нашыя фокусьнікі, паміма шумлівай хвальбы, робяць свае штукі неяк так дрэнна і няўдала, што проста сорамна робіцца за іх работу.

Ну, хоць-бы ўзяць іх фокус пераробкі, паважанага ў сваёй вёсцы, але нажаль малаграматнага селяніна-хлебароба К. Мацкевіча на журналістага. Нейкі фокусьнік з „Сялянскай Нівы“ напісаў проста ад яго імя патрэбную заяву і, пасьля подпісу яго, надрукаваў у сваёй газэце: „Рэдактар... К. Мацкевіч“ ды крычыць: гатова! вось вам з малаграматнага хлебароба—журналісты. Паночкі, ці-ж вам хто павера, што гэта запраўды рэдактар і журналісты, калі

---

Усю злоўленую рыбу рыбакі павінны аддаць таварыству і ніхто без яго дазволу і ведама лавіць сеткамі рыбы ў Энзэлійкай затоцы ня мае права. Пэўна-ж на вудачкі ловіць рыбу хто толькі ўздумае і злавіць яе тамака нават на няхітры свае работы кручок, прычэплены да шнурка з грузілам—рэч зусім лёгкая. Падчас вайны сотні салдатаў, уцёкшых з фронту, ў працягу доўгіх месяцаў бадзяліся па берагох затокі, жывучы выключна злоўленай гэткім чынам рыбай, пакуль малярыя, халера, альбо іншая якая хвароба не прасякала ніткі іх маркотнага жыцьця.

Куды труднейшай справай зьяўляецца консэрвацыя злоўленай рыбы. Улетку, калі тэмпэратура ў Энзэлі дасягае іншы раз больш як 50 градусаў па Рэомюру, лоўля рыбы спыняецца амаль зусім, бо вынутая з вады рыба ўжо праз некалькі гадзін псуецца і пачынае сьмярдзець, так што няма часу ўпарадкаваць яе. Але і падчас зімы, якая ў Энзэлі выглядае зусім іначай, чымся ў нас, бо сьнегу там амаль ня бывае зусім і тэмпэратура ніжэй нуля не апускаецца ніколі, консэрвацыя рыбы таксама зьяўляецца для прамыслоў справай вялікай вагі, бо злоўленая рыба, на месцы ня мае ніякага збыту і іншы раз праходзяць цэлыя месяцы, пакуль рыбны тавар, прайшоўшы тысячы вярстоў, пападзе нарэшце ў рукі спажыўца.

Апрача солі, рыба консэрвуецца на Ліанозаўскіх рыбных промыслах—марозам.

Не адзін, прачытаўшы гэта, запытае, а скуль узяць гэны мароз у Энзэлі, калі і зімою тамака няма марозу? А вось адкуль: Ліанозаўскія рыбныя промыслы робяць мароз машынамі. Для вырабу марозу, яны пабудавалі ў Энзэлі спэцыяльную аграмадную фабрыку гэтак званую халадзільню, якая складаецца з трох галоўных аддзелаў. Першы аддзел—гэта вы-

зайшоўшы ў рэдакцыю людзі бачаць, як К. М. са шчоткай у руках падмятае падлогу, а за рэдактарскім сталом сядзіць добра знаёмая ўсім асоба, каторая з К. М. мае хіба тое супольнае, што ў прыпадку адказу прад судом, за які-небудзь брыдкі няўдалы ваш фокус—судзіць будуць К. М., а не таго пана з-за рэдактарскага століка?

Ці-ж так хто робіць фокусы?

Трэ' было хоць не прыстаўляць К. М. да падмятаньня падлогі, няхай-бы сабе сядзеў у сваёй вёсцы; дый гэтак сама пану з-за рэдактарскага століка трэба было прычапіць вусы дый купіць сінія акуляры. Праўда, гэта трошкі каштавала-б, бо трэ' было-б наняць асобнага чалавека для падмятаньня рэдакцыі, дый прычапныя вусы і акуляры таксама трошкі каштавалі-б.

Але тады той ці іншы мог-бы паверыць вашаму фокусу, а так адзін сорам выйшаў, а ня фокус.

Альбо вось яшчэ другі вельмі няўдалы фокус, задуманы нейкім фокусьнікам з іншай палітычнай крамкі, які знайшоў часовы прытулак разам са сваімі недадуманымі думкамі „Аб культурнай працы“ ў „Родных Гонях“.

Фокусьнік гэны, нейкі доктар чорнай і белай магіі, а мо' якой іншай навукі, меўся публічна паказаць, як высілкам волі свае можа стварыць і зьніштожыць беларускага пісьменьніка. І вось гляньце, як ён зрабіў гэны фокус: узяў фотаграфію групы дзесяцёх беларускіх пісьменьнікаў, залажыў белай паперай адбітак аднаго з іх, Макара Краўцова, зрабіў клішэ, на якім ужо Макара К. ня было, надрукаваў гэнае клішэ ў першай кніжцы "Родных Гоняў" і кажа: вось гляньце, грамадзяне, толькі воляю сваёю, бяз ніякай дапамогі рук і ног, толькі працаю сваёю, толькі літэратураю і культураю сваёю, толькі філёзофіяй, толькі белай і чорнай магіяй дабіўся я таго, што быў беларускі пісьменьнік і не абы які, а здольны і знаміты, а цяпер дзе ён? Няма!

Ізноў сорам адзін, а ня фокус. Бо ці-ж паверыў хто-колечы, што няма Макара Краўцова, калі ўсё граматнае беларускае грамадзянства і цяпер чытае творы яго пяра, калі бачыць яго, як жывы і здаровы гуляе па вуліцах Вільні? Але ня толькі гэта. Ці-ж фокусьнік — доктар белай і чорнай магіі і ўсіх навукаў ня ведаў, што на сьвеце ёсьць не адзін адбітак гэнай групы і што даволі толькі зрабіць з яго праўдзівае клішэ і ўсё ашуканства фокусьніка зробіцца ясным нават самаму лёгкавернаму чалавеку.

Кажучы аб нашых родных фокусьніках-палітыканах, ня можам абмінуць яшчэ аднаго фокусу, які палягае на тым, што з чалавека якой-нібудзь іншай нацыі яны робяць беларуса, альбо надварот—з беларуса робяць чалавека іншай нацыянальнасьці.

Фокус гэны робіцца вельмі проста. Фокусьнікі нашы прыклейваюць на чалавека той ці іншы ярлык, як гэта робяць гандляры на сваіх таварах. Для пераробкі на беларуса яны ўжываюць ярлык з гэткім больш-менш зьместам: гэным, мы, дактары белай і чорнай магіі і ўсіх навукаў, заяўляем, што грамадзянін X ёсьць запраўдны беларус. Тое, што ён ня ведае беларускае мовы і яшчэ нядаўна рваў і таптаў творы беларускіх пісьменьнікаў—справа няважная, бо для яго усё польскае ёсьць „трэф“ і „кошэрам“, паводлуг яго заявы, ніколі ня будзе.

Для пераробкі беларуса на якую-нібудзь іншую нацыянальнасьць прыклейваецца ярлык прыблізна вось гэткага зьместу: Гэным мы дактары і гэтак далей, заяўляем, што грамадзянін Z ня ёсьць беларус, а самы запраўдны паляк, ці расеец, жыд і г.д.

Хаця грамадзянін Z і ёсьць беларускім пісьменьнікам і мае ў беларускай мове свае друкованыя творы, і гавора пабеларуску, як рэпу грызе, але гэта нічога ня значыць, запраўдным беларусам ён ніколі ня быў, ня ўсё польскае для яго зьяўляецца „трэфным“, наадварот — ён мае адвагу казаць, што там ёсьць шмат „кашэрнага“, чаго ня шкодзіла-б іншы раз папробаваць і беларусу.

Вядома, залежна ад таго, прадстаўніком якой

---

сокая будыніна — корпус каторае на якіх 10, а мо' і больш мэтраў выступае над паверхам рэшты фабрычнага корпусу, і верхняя частка яго прадстаўляе ні што іншае, як звычайную паветку, абапёртую на слупкох, на каторых трымаецца страха. Пад паветкай гэнай, па цэлай сыстэме хітра выкручаных жалезных трубаў, па якіх звонку бесьперастанку сплывае да спэцыяльнага рэзэрвуару вада, так што яны застаюцца ўсьцяж мокрымі—праходзіць больш ці менш гарачае, залежна ад пары году, паветра з надворку. Сыстэма трубаў, змочаных вадою, мае на мэце трошкі ахаладзіць паветра, якое па іх праходзіць. Ахаладжэньне гэтае дасягаецца тым, што дзякуючы паветру, якое ўсьцяж гуляе пад высока пастаўленай паветкай, частка вады, што сплывае па трубах, выпарваецца, дзеля чаго трубы значна халадзеюць, разам з імі халадзее і паветра, якое па іх працякае. Ахаладзеўшае трошкі паветра па тых самых трубах ідзе далей і праходзіць вужакай праз вялізарныя бочкі, ў якіх трымаецца халодная вада. У ваду гэную ад часу да часу дадаюць спэцыяльных парашкоў, якія маюць тую асаблівасьць, што, распусьціўшыся у вадзе, значна ахаладжваюць яе.

Гэткім чынам, трошкі толькі ахаладжанае пад паветкай паветра, праходзячы далей па трубах, зьмяёй выкручаных у вышэй спомненых бочках, выходзіць далей яшчэ больш халодным і тады толькі пападае ў машыны, якія шляхам расшырэньня халоднага ўжо паветра паніжаюць тэмпэратуру яго да 20—25 градусаў ніжэй за ноль. І вось, ахаладжанае гэткім чынам, паветра ідзе далей па трубах у падвалы, пабудованыя так, каб звонку цяплыня не магла да іх даходзіць. Гэныя падвалы, ў якіх тэмпэратура паветра даходзіць да 15 градусаў ніжэй за ноль і

палітычнай крамкі зьяўляецца фокусьнік, зьмест ярлыка ў дэталях зьмяняецца.

Але ізноў з гэтага фокусу выходзіць адно глупства, бо перш за ўсё бывае так, што на аднаго і таго самага чалавека фокусьнікі дзьвюх розных палітычных крамак прыклейваюць ярлыкі, пярэчачыя адзін аднаму і выходзіць так, што паводлуг аднаго ярлыка—гэта запраўдны беларус, а паводлуг другога—запраўдны паляк, ці маскаль. Туткі ўжо фокус ня ўдаўся зусім.

Але поўную нясьпеласьць сваю нашыя фокусьнікі-палітыканы выказалі сваёю спробаю пераробкі белага на чорнае і дня на ноч. Об'ектам фокусу зрабілася наша часопісь. Перарабіўшы ў ёй белае на чорнае і дзень на ноч, яны загаўкалі:

— Гатова, гляньце, няма „Беларускага Дня", а ёсьць самая запраўдная „*Чорна*руская Ноч".

Але людзі зарагаталі ім проста ў вочы на гэныя словы:

— Годзі байкі баяць, шак мы самі чытаем газэту і ведаем, як яна завецца,—рагаталі сяляне.

Даруйце, мы абмыліліся, — зашапляніў злоўлены на ашуканстве фокусьнік, — гэта ня „Чорнаруская Ноч" а Умястоўскага Беларускі Дзень.

— Самі ведаем, што Умястоўскага, ўжо са злосьцю загудзелі слухачы, — ў газэце так і напісана: рэдактар-выдавец Умястоўскі і кажуць падлогі ён у рэдакцыі не падмятае, а за рэдактарскім сталом сядзіць.

— Дык вы мяне ня так зразумелі, — тлумачыўся вінаваты фокусьнік, гэта не Беларускі Дзень а Умястоўскага Беларускі Дзень—польская часопісь у беларускай мове.

І канцы канцамі белае такі засталося белым, а дзень днём,—фокус з пераробкай белага на чорнае і дня на ноч—ня ўдаўся.

Не, паны фокусьнікі! Збанкрутавалі вашыя папярэднікі — балаганныя фокусьнікі, недалёка той час, калі збанкрутуеце і вы, але калі хочаце мець, пакуль што, кавалак хлеба з свае прафэсіі, то павінны ўзяць яшчэ некалькі лекцыяў у сваіх настаўнікаў, запраўдных мастакоў фокуснай прафэсіі—ў польскіх эндэкаў, альбо адразу зачыняйце свае палітычныя крамкі, бо беларускі народ ужо перарос вашыя фокусы.

*Шастун.*

## ПЕСЬНЯ РАТАЯ...

Ой, я ўстану рана-рана да ўсходу
Ды выйду гараці ў поле на слабоду.
Ў полі, на прасторы ціха вецер вее,
Ківае травіцу, так сабе шалее,
А там ужо з-за лесу сонца выплывае,
Тахае у грудзях воля дарагая.
Складаю загоны з нукаю сваею,
Праводжу разоркі адна за аднэю.
Ніва мая родна, ніва ты шырока,
Люба ты мне люба, цешыш маё вока!
Цешыш маё сэрца, цела адзяваеш,
А як прыдзе лета, жнівом прывітаеш,
Не адзін я выйду, выйдзе ўся сямейка
І запяе песьню маладая жнейка.

*А. Юшкевіч.*

## СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

### НЕВІНАВАТЫ.

Суд разьбірае справу злодзея, які залезшы ў чужую камсру украў порткі. Ён не прызнае сябе вінаватым і суд ідзе сваім чарадом. Пасьля прамовы пракурора і защчытніка судзьдзя выносіць прыгавар, які прызнае злодзея звольненым ад адказнасьці дзеля браку доказаў.

— Вы цяпер свабодны, кажа судзьдзя, можаце ісьці да хаты.

Але злодзей сядзіць на сваім месцы і ня рухаецца, а толькі лыпае вачамі.

— Аслабаніць лаву падсудных, туткі зараз мусіць сесьці іншы чалавек, а вы свабодны, ідзеце да хаты,—зноў паўтарае судзьдзя.

— Але як ісьці, панё судзьдзя, калі тыя порткі, што я украў, і цяпер на мне!

---

і служаць складам злоўленай рыбы, якая ў замарожаным стане можа трываць, ня псуючыся, вельмі доўга.

Мне адзін раз давялося быць у гэных паграбох. Знадворку, дзе ў тым часе тэмпэратура была каля 40 гр. цяплыні па Рэомюру, загадчык увёў мяне ў першы пакоік паграбку, зусім цёмны, бяз вокнаў, са шчыльна, амаль не гэрмэтычна, прыгнанымі дзьвярыма, і, паціснуўшы нейкі гузік, запаліў электрычную лямпачку. Тут абдало адразу мяне прыемным халадком. Тэрмомэтр на сьцяне паказваў 15 градусаў цяплыні. Адсюль вялі дзьверы ў другі пакоік. Там я пачуў, што мне холадна, і пашкадаваў, што ня ўзяў з сабою шынэля. Тэрмомэтр тутака паказваў ужо толькі 2 градусы цяплыні.

А загадчык вёў мяне далей, ажно, мінуўшы яшчэ некалькі пакояў, у якіх было ўсё больш і больш холадна, папалі мы ў апошні, найбольшы пакоік, дзе градусьнік паказваў 15 градусаў марозу, я пачаў ляскаць ад холаду зубамі і, гледзячы на цэлыя горы замарожанай рыбы, на гэных цьвёрдых як косьць, атрупелых вяліканаў мора, яшчэ нядаўна вольна гуляўшых па водных прасторах, здалося мне, што я папаў з краіны жыцьця ў краіну сьмерці. І з якой радасьцяй я прывітаў сонца і зелень садоў, і подмух гарачага ветру, і шум далёкага мора, выйшаўшы ізноў з гэнай цемры і холаду на сьвет Божы.

*Дзядзька Пранук.*

(*Працяг будзе*)

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як расплянаваць вясковую сядзібу.

У сягоньняшні час будуюць гэткую сядзібу, каб у ёй якнайхутчэй пасяліцца. Беднасьць не пазваляе прытарнаваць які-нібудзь плян. Але ёсьць шмат выпадкаў, што нават там, дзе можна было-б плянова паставіць будынкі, мала зьвяртаецца ўвагі на рацыянальнасьць будовы. Аднак-жа, калі падумаеш, гаспадару, што ўсё-ж такі найбольшую часьць жыцьця павінен будзеш правясьці ў сваёй сядзібе, што ад спосабу яе выбудаваньня будзе залежаць, ці вечна будзеш мець затручанае жыцьцё, ці таксама заўсёды будзе ў ёй ясна, весела і міла, — дык шмат зробіш натугаў, каб за ўсякую цану дасягнуць гэтага другога.

На сядзібу трэ' выбраць месца безварункова сухое. Калі-б гэтага дасягнуць было немагчыма, дык трэба пакапаць равы, парабіць сьцёкі, а на ўвесь падворак і месцы пад будынкі трэба навязьці жвіру, попелу, пабітай цэглы і г. д. Тады вада лёгка будзе ўваходзіць у зямлю, на падворку ня будзе лужаў, менш будуць псавацца будынкі.

Якія-ж вымаганьні трэба паставіць наасобным будынкам?

Хата павінна быць якнайсьвятлейшая і дзеля гэтага пярэдні бок хаты павінен быць зьвернены на поўдзень, крыху адхіляючыся да ўсходу.

Гумно павінна быць пастаўлена так, каб ток у ім меў гэткі кірунак, як вятры, якія веюць у данай мясцовасьці, а значыцца ў нас—заходня-ўсходні, каб гэткім чынам заўсёды гумно прадувалася і прасушвалася.

Стайню і хлеў трэба ставіць дзьвярыма і вокнамі так, каб у іх быў цень, а знача ад усходняга або паўночнага боку, каб жывёла ў сьпякоту мела дзе схавацца ад жары і аваднёў.

Хаты ня трэба ставіць вельмі блізка ад дарогі. Яна павінна стаяць ад дарогі ў адлежнасьці найменш 5 мэтраў і то заслоненая дрэвамі й кустамі, каб пыл з дарогі ня ўходзіў нам проста ў хату. Нарэшце, перад кожнаю хатаю павінен быць гарод з кветкамі. Геаргіны, рожы, мальвы, макі і іншыя кветкі п вінны рознародзіць від. Як фруктовых, так і іншых дрэваў ня трэба садзіць вельмі блізка каля дому, каб яны не засланялі нам доступу сонца.

Ад суседніх хатаў нашая хата павінна быць аддзеленаю прынамсі на 5 мэтраў, каб гэткім спосабам хоць натрошкі забясьпечыцца ад пажару. Калі можна, дык паміж суседнімі між сабою хатамі трэба памясьціць высокія дрэвы.

Стайня павінна быць пастаўлена ў адлежнасьці ад 15 да 20 мэтраў ад хаты, каб аваднi і пах да яе не даходзіў.

Калі хто-нібудзь ня мае выхаду і мусіць будаваць стайню разам з хатаю, дык няхай хоць дзьверы ад хаты і ад стайні робіць асобна.

Гумно, як звычайна найбольш гаручае, павінна стаяць магчыма далёка ад іншых будынкаў.

Яно павінна быць аддалена ад суседавай сядзібы прынамсі на 5 мэтраў і на 10 мэтраў ад будынкаў уласнае сядзібы.

## Як можна мець раньнюю бульбу?

Гэтае пытаньне цікавіць кожнага селяніна. Калі ўзяць пад увагу, што бульба ёсьць галоўны пасьля хлеба харч вясковай сям'і, дык гэтая цікавасьць стане зусім зразумелай. Чым хутчэй гаспадар дача-

# ДЭФІЛЯДА БАЛЬШАВІКОЎ У БССР.

Трудна іначай, як дэфілядай (парадам) бальшавікоў, назваць тое, што адбывалася нядаўна ў Менску. Мы хочам падзяліцца з чытачамі „Бел. Дня“ тымі весткамі, якія ёсьць у нас аб гэтак званым „VIII усебеларускім зьезьдзе саветаў“, што адчыніўся ў Менску 5 мінулага красавіка.

Ня кожнаму напэўна заходняму беларусу вядома, што значаць падобныя зьезды, ня кожны ведае, якую бальшавікі гэткім спосабам робяць гульню ў уладу працоўных ці, як яны любяць трубіць на цэлы сьвет, уладу сялян і работнікаў. Фактычна-ж уся ўлада ў гэтак званай „Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублiцы“ знаходзіцца ў руках расейскае камуністычнае партыі; партыя гэтая мае свой цэнтр у Маскве і адтуль кіруе ўсімі народамі бышае Расеі, апіраючыся на штыхі скалочанае ёю Чырвонае Арміі і аддзелы асобнага назначэньня, якія складаюць цяперашнюю маскоўскую жандармэрыю ОГПУ (Общесоюзное Государственное Политическое Управление).

Але бальшавікі ня гэткія ўжо й дурні, каб спачываць на ляўрах, маючы пад сабою штыхі. Яны таксама ведаюць словы, сказаныя ў свой час Напалеёнам I-м: „Штыхамі шмат што можна зрабіць, на іх толькі нельга ўсядзець“.

I памятуючы гэта, бальшавікі прарабляюць па меры патрэбы поўную камэдыю выяўляньня нібыто волі працоўных масаў, склікаючы с в а і х людзей на гэтак званыя зьезды саветаў, што лічацца па іхняй канстытуцыі вярхоўнымі органамі ўлады. Зьезды гэтыя ня што іншае, як дэфіляда бальшавіцкіх сіл перад заграніцаю, бо зьезды саветаў нічога ня могуць зьмяняць у тым, што заведзена загадзя па пляну цэнтральнага камітэту камуністычнае партыі, ў руках якое знаходзіцца ўсясільнае ў іх ГПУ.

Мы хочам пазнаёміць чытачоў з найболей пукатымі мамэнтамі „усебеларускага зьезду саветаў“, каб

кае новай бульбы, тым багацей будзе яго стол. Асабліва пажаданым мецъ рана сьвежую бульбу бывае і ад таго, што пасярод самага лета, ў самую пільніцу, часта ў гаспадара бывае вычарпаны з аруда ўвесь хлеб і прыварак. Мець у гэтую пару сьвежую бульбу — надта вялікае шчасьце для гаспадара.

Каб мець раньнюю бульбу ёсьць некалькі спосабаў, зусім даступных кожнаму гаспадару. Пасаджаную па ніжэй паданаму спосабу ў леташнім годзе, я меў сьвежую бульбу на цэлы месяц раней за сваіх суседзяў! У гэтым годзе шмат ужо гаспадароў маюць пайсьці за маім прыкладам.

Ёсьць некалькі спосабаў мець рана новую бульбу. Вось некаторыя:

1. У канцы лютага, або ў пачатку марца (чым раней, тым лепей) трэба набраць бульбы і рассыпаць яе ў якім-небудзь цёплым і відным месцы. Можна проста парасkладаць бульбу на паліцы, зробленыя каля сьцен у хаце. Толькі абавязкова, каб на відным месцы. Можна набраць бульбы і ў мелкія скрынкі і гэтыя скрынкі трымаць на сьвятле. Ня шкодзіць пад бульбу ў скрынках ці на паліцах падсыпаць зямлі. Так трымаем бульбу датуль, пакуль не настане пара садзіць яе. За гэты час бульба дасьць з сябе кароткія, але грубыя зялёныя расты. Прарашчоная бульба асьцярожна, каб не паламаць растоў, высаджваецца на гарод растамі ўверх і закрываецца зямлёй. Садзіць можна, як звычайна садзяць бульбу, пад плуг ці пад саху, хоць лепей садзіць пад лапату. Пасаджаную так бульбу, ў леташнім годзе, я меў ужо новую хутка пасьля Сёмухі.

2. Вясной, як толькі адойдзець зямля, бяруць раньні сорт бульбы не прарашчаваючае (напрыклад „пасьпешку“) і садзяць у зацішным цёплым месцы гароду і зьверху закрываюць бульбу зямлёй на вяршкі 4 глыбіні, каб магчымыя ў гэты раз прымаразкі не пашкодзілі растом; пасаджаная так бульба хоць і дае раней плод, але ўраджай бывае нязначны.

3. Замест таго, каб садзіць бульбу глыбока, вясной рана садзяць бульбу мелка (на вяршок 1—1½), а каб не пашкодзіў мароз, зьверху накрываюць тоўста конскім гноем (па зямлі). Гной пасьля, як узойдзець бульба, зьмешваюць з зямлёй. У гэткім выпадку будзем мець і рана новую бульбу і добрую. Калі няма конскага гною, то бульбу можна накрыць саломай, мякінай, льнянаю кастрыцаю, мохам. Зразумела, што ў гэткім разе накрыўка будзе ахоўваць бульбу толькі ад марозу і ня будзе даваць аніякага корму расьліне, як конскі гной, так што ўраджай будзе меншы.

*Сымон Зуй.*

## Ці дае карысьць сялянам малачарня?

Часта сяляне самі сябе пытаюць: „Ці дае якую карысьць малачарня“? Даведацца ім у нас няма ў каго.

Пры павятовых сойміках ёсьць „зямельны інструктар“, каторы павінен сялянам расказаць аб арганізацыі малачарні, але ён гэтага ня робіць. Праўда, ён хоць і тлумачыць, але толькі ў польскай мове, а беларускаму селяніну, пакуль што, польская мова незразумелая, а неразумеючы і ня ведаючы карысьці, якую даюць малачарні, сяляне іх не закладаюць і не стараюцца закладваць.

Ў Браславе кожны кірмаш (бывае ў тыдні два разы) жанчыны стаяць радамі, трымаючы поўныя клумкі з бутэлькамі малака, чакаючы, — калі якая жыдоўка прыйдзе і купіць малако. Бывае, што цэлы дзень прастаяць і ніхто ня купіць. Прыходзіцца бедным жанчынам нясьці малако назад дамоў, ня маючы гроша і нічога ня купіўшы.

Малако марнуецца, хоць, праўду сказаць, яно і ня лішняе, але як трэба грошай, дык трэба і апошняе прадаць, а каму? Калі ніхто ня купляе. Вось і патрэбна малачарня. Каб была малачарня ў вёсцы (можна мець на некалькі вёсак

---

кожны мог судзіць аб беларускасьці бальшавіцкае ўлады на Савецкай Беларусі.

Мы не карыстаемся весткамі прыпадковымі, якімі-нібудзь плёткамі прыбыўшых „адтуль“ людзей або гэтак званымі інформацыямі аб цяперашняй Расеі эміграцкае расейскае прэсы. Усё намі ніжэйапісанае знаходзім у менскай газэце „Савецкая Беларусь“, якая зьяўляецца „органам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саветаў БССР“ і мы не абмінём найбольш пахнючых красак з букету справаздачаў перад зьездам саветаў маскоўскіх дзяржымордаў, што тытулуюцца ў Менску „народнымі камісарамі Беларусі“. Мы пры патрэбе будзем гаварыць аўтэнтычнымі словамі гэтых камісараў на зьезьдзе, каб ня быць галаслоўнымі.

Трэба-ж мець на ўвазе, што дасюль беларуская прэса ў Польшчы неяк нават і ня сьмела, а часам проста ня ўмела падыйсьці крытычна да таго, што дзеецца сапраўды на беларускім усходзе, а пэўная масьць нашае тут прэсы проста старалася малюваць сабе „Радавую“ Беларусь, як нейкі незалежны беларускі дзяржаўны арганізм, прышчапляючы нашым сялянскім масам фальшывы пагляд на бальшавіцкі лад, пагляд—прапушчаны праз акуляры спрытных палітыканаў. І гэта ў той час, як ніякае ні „радавае“ ні „раднае“ Беларусі на Ўсходзе няма, а над усім пануе расейскае сымболічнае слова „совет“, якое ў перакладзе на беларускую мову азначае „рада“ і выглядае для маскоўскіх бальшавікоў, як нейкі контр-рэвалюцыйны „жупел“. Расейская літэратура ведае такую даму, якая баялася гэткага слова. І бальшавікі, робячы, праўда, пасвойму гэтак званую беларусізацыю сваіх установаў у Беларусі, баяцца некаторых беларускіх словаў горш, як тая дама „жупелу“ і некаторыя нашыя шчыра народныя словы, як напр. „рада“, „жыд“, сілаю стараюцца выціснуць з народнага лексыкону. Дый што яны робяць ня сілаю?

А вось пазнаёмімся, наколькі гэта магчыма на шпальтах газэты, з „вярхоўным органам“ іхняе ўлады ў Менску і будзем мець па гэта зусім ясны адказ.

VIII усебеларускі зьезд саветаў налічваў больш як

а дну малачарню), то ня трэба было-б нясьці малака 10 і болей вярстоў у мястэчка і чакаць там, як на якое шчасьце, калі ў цябе хто купіць.

Тут цябе ня будуць трымаць нават аднае гадзіны. Прымаць будуць кожны дзень. Грошай адтрымаеш столькі, колькі будзе каштаваць малако тваё каровы, без ашуканства.

Вось гэта, браткі мае, і будзе першая карысьць ад малачарні сялянам. Прыходзілася мне гутарыць з такім чалавекам, каторы пражыў у вёсцы 5 гадоў, у каторай ёсьць малачарня. Расказваў ён, што самая найгоршая карова, адносячы яе малако штодзёнь у малачарню, а прыносячы стуль малако без сьмятаны, дае ў месяц даходу каля 20 злотых.

Гэта самая найгоршая, а што гаварыць аб лепшай!

Трэба нам, сялянам, абавязкова арганізаваць у сваіх вёсках малачарні. Трэба нам дабівацца лепшай долі.

*Зьдар Зарак.*

## Вясьняныя пасевы ў гародзе.

Калі зямля ў гародзе падсохне, дык пушчаем барану і драпак, зусім выраўняем паверхню граблямі перад самым засевам. Трэба сьцерагчыся залішняга выгладжваньня зямлі разьбіваньнем яе ва дробныя грудкі. Гэткая распыленая зямля заскарыньваецца пасьля дажджу, што затрудняе расьлінам дыханьне пры помачы каранёў.

Калі ў нашым гародзе вядзём трохпольную гаспадарку, дык дзялем кожнае поле на кавалкі і загадзя азначайма, якая гародніна колькі займе месца.

На першым полі па гнаі пасейма ў красавіку шпінак і салату. Абедзьве гэтыя гародніны можна засеяць на кавалку, на якім у траўні пасадзім гуркі, або паміж градкамі, на якіх будзем садзіць капусту, каляфіоры і калярэпу.

Шпінак і салату найлепей сеяць у рады так, як і ваагул усе расьліны. Адлежнасьць паміж лініямі абедзьвюх гэтых гародвінаў павінна быць 30 сантымэтраў. Засеў трэба прыпляшчыць, а калі ўзайдзе—перарваць, каб не расло вельмі густа. Таксама на першым полі па гнаі пасадзем трошкі прарослае бульбы. Расточкі павінны быць тоўстыя, цемнаватыя (бульба пушчае тоўстыя расты, калі трымаем яе ва сьвятле пры вакне ў хаце). Гэта будзе наша найранейшая бульба.

На другім полі па гнаі высяваем у красавіку блізка што ўсе гародніны, якія гадуюцца на гэтым кавалку, а знач. буракі, пятрушку, моркву, цыбулю. Гэта расьліны, насеньне якіх доўга ляжыць у зямлі, пакуль прарасьце, і якія не баяцца халадоў.

Пятрушку і моркву сеем у лінію, аддаленую адна ад аднае на 25—30 сант. Дзеля таго, што насеньне гэтых расьлінаў дробнае, дык лёгка зрабіць пасеў залішне густы. Каб ад гэтага ўхіліцца і палягчыць сабе працу, дык трэба мяшаць насеньне з пяском і кропам. Засеў будзе радчэйшы, а кроп узайдзе раней і пакажа лінію пасеву, што палягчыць нам палацьцё маладых сьметнякоў.

Пры першым перарываньні засеву можам вырваць малады кроп, які добра дасца перахаваць салёным на зіму. Для буракоў лінію пасеву даём радчэйшую—праз кожныя 40 сант.

Дзеля азначаньня лініі можам ужыць шнурок або значнік. Для значэньня шнуркам патрэбны дзьве, а нават і тры асобы. Дзьве цягнуць да сябе розныя канцы шнурка, а трэцяя граблямі або кійком рысуе лінію пасеву ўдоўж нацягненага шнурка.

Значнікам робіць знакі адна асоба. Значнік можа быць дзеравянны, падобны да грабель. Розьніца тут тая, што паасобныя зубы можна вымаць і ўстаўляць у якіх хочаш водступах. Дзіры для зубоў круцім у папярэчцы праз кожныя 5 см.

---

950 дэлегатаў, з якіх 200 з дарадчым голасам. I каго толькі няма сярод гэтых дэлегатаў? Напрыклад, ад віцебскіх чугуначнікаў вітаў зьезд „таварыш“ Чун-Хун-Чан—кітаец з Манджуры, што служыць рабочым на чугунцы.

А дзеля таго, што бальшавікі хочуць пастановам гэткага зьезду надаць як-бы і не на жарт выражэньне народнае волі, дык у прэзыдыум выбралі (чытай—паназначалі) апрача партыйных сваіх заправілаў таксама і звычайных сялян, рабочых і работніц. У сьпіску сяброў зьездаўскага прэзыдыуму так і значыцца: „Барсукоў — селянін Калінінскае акругі, Дакука--работніца г. Барысава“, або: „Эйдзінаў--рабочы з Менску“... Тады як прозьвішчы самога „прэзыдэнта“ або „прэм‘ер-міністра“ Савецкай Беларусі падаюцца ў гэтым сьпіску проста: Чарвякоў, Адамовіч—бяз ніякіх дадаткаў. Выходзіць, што словы „селянін“, „рабочы“ дадаюцца да прозьвішчаў савецкіх дэлегатаў, як калісь у царскія часы да шляхоцкіх прозьвішчаў дадаваліся іншы раз: „барон“, „князь“, „граф“. На паперы — быць тамака селянінам альбо рабочым, гэта—прывілей: улада, асядлаўшы ўчарашнюю „шэрую скацінку“ Мікалая II, баіцца пагладзіць яе проці шэрсьці і нават сам старшыня выканаўчага камітэту Беларусі Чарвякоў выступае перад сабранымі ім дэлегатамі зьезду, сярод якіх ёсьць кінуўшыя часова чапялу з гаршкамі... няпісьменныя сялянкі.

Ну, проста ідылія яднаньня дыктатараў з ажабрачанымі выбранцамі рабочых і сялянства! Гэтым выбранцам два — тры дні пушчаецца пыл у вочы, ім дае справаздачу Ўрад, адзін за адным без канца гавораць народныя камісары, падпяваюць ім вучоныя, літэратары, рапартуюць чырвоныя камандзеры аб сваіх дывізіях і нават пакітайску праз тлумача вітае іх які-небудзь Чун-Хун-Чан, натаўпы могуць з вуліцы слухаць усю гэтую гаварыльню праз радыё, бо ўсё, што трэба, зроблена—расстаўлены ў пэўных пунктах гучнагаварыцелі.

*Незалежнік.*

(*Канец будзе*).

Цыбулю садзім там, дзе зямля лёгкая, прапушчальная і цёплая, але трэба помніць, што цыбуля любіць пульхную зямлю і дзеля гэтага перад самым саджаньнем цыбулі зямлю трэба насьвежа скапаць і заграбіць. Адлежнасьці паміж лініямі даём 20 см. Насеньне павінна быць сьвежае — аднагадовае. Спульхняць зямлю цыбулі трэба падчас усяго росту.

На кавалку, прызначаным на 2-ім полі пад памідоры, можна сеяць радыску ў лінію ці нават і кіданьнем. Да паловы траўня, г. зн. да часу саджэньня памідораў, радыску пасьпеем вырваць.

На трэцім полі па гнаі ўжо якраз пара сеяць гарох. Лінію ад лініі даём на 30 см. У радкі кідаем зярняты на 5 см. адно ад аднаго. На засеў можна ўжыць двугодняга насеньня. Кожнага насеньня, г. зн. гароху, буракоў, пятрушкі, морквы і г. д. ня трэба мачыць перад сеяньнем, расток пакажацца хутчэй, але калі пападзе на сухі час, дык засеў можа змарнавацца.

Гарох, калі ён абыходзіць, вельмі любяць вераб'і. Каб іх пужаць, дык будзе добра, калі наўбіваем тонкіх калочкаў паміж лініямі пасеву і замацуем іх якімі-нібудзь ніцьмі. Верабей, скачучы, блутаецца ў нітках і, перапуджаны, больш на гэтае месца не прылятае. Дзеля таго, што гарох зьяўляецца адной з найбольш пажыўных гароднінаў, — бо мае ў сабе бялок,—дык яго трэба сеяць у вялікай колькасьці.

Хто гадуе садоўкі (трускаўкі), дык павінен іх зараз-жа ўзмацніць гноем.

## Гаспадарчыя парады.

## Адказы на пытаньні.

### Салетраваньне жыта чылійскаю салетраю.

Пытаньне: Пасьля перагору сарадэлішча на пожні, я пасеяў жыта. Сарадэля была ўсеяна ў жыта па гнаі. Жыта пасьля сарадэлі выглядае блага і вельмі слабое. Ці добра будзе вясною пасалетраваць жыта чылійскаю салетраю? Ці варта сеяць жыта на сэрадэлішчы па пожні і якога дадаць гною?

Адказ: Шмат можа быць прычынаў, дзеля якіх жыта выглядае блага, але ў кожным выпадку тут не вінавата пожніцкая сарадэля, якая ёсьць найтаньнейшым азотным гноем. Калі ўвосень жыта ня было зьнішчана шкоднікамі, дык можа паправіцца вясною, калі да гэтага яшчэ добра перазімавала (ня выпрэла па прычыне ўсеву ў неадляжалую зямлю, што магло выклікаць разарваньне або агаленьне карэньчыкаў). Салетраваньне чылійскаю салетраю ў колькасьці да 50 кілёгр. на 1 га пабуджае жыта да шыбкага разьвіцьця ў першым пэрыядзе росту і дзеля гэтага магло-б быць раджана, ня гледзячы на тое, што азотнага гною можа быць даволі пасьля сарадэлі. На цяжэйшых, тугіх, скарынкаватых грунтох жыта трэба збаранаваць.

Жыта заўсёды варта сеяць на пожніцкай сарадэлі, трэ' было-б толькі дадаць томасіны да 200 кілёграмаў на 1 га.

### Штучныя гнаі пад бульбу і авёс.

Пытаньне: Увосень лонскага году я ачысьціў 1 га зямлі ад лістаўнага лесу (граб, ясень, дуб, ляшчына), але не пасьпеў на зіму зграраць. Маю замер вясною засеяць на поўгэктары авёс. Як давырабіць, якіх даць штучных гнаёў і ў якой колькасьці пад бульбу і авёс? Грунт лёгкі, гліны няма, падгруньцьце прапушчальнае, г. знач. тыповы палескі грунт.

Адказ: Ня раіцца садзіць бульбу на навіне, да таго-ж яшчэ нявыробленай і нягноенай увосень. Бульба магла-б быць пасаджана найкарысьней у трэцім годзе па абязьлесеньні, калі грунт ужо даведзены да пэўнае культуры і высьмечаны. Калі-б Вы дарабілі зямлю

---

# Кітайская Нацыянальная Рэвалюцыя.

### Кітай — для кітайцаў.

Як ужо намі было ад'значана ў № 6 „Бел. Дня“, галоўную ролю ў кітайскай нацыянальнай рэвалюцыі граець радыкальная кітайская буржуазія і кітайская інтэлігэнцыя, якой ходзіць перад усім аб выгнаньне ангельцаў і наогул чужынцаў і аб палітычнае, эканамічнае і культурнае адраджэньне кітайскага народу.

Кітай для кітайцаў! — вось у двух словах уся яе баявая праграма.

Як і трэба было чакаць, гэтая радыкальная кітайская буржуазія павінна была ўвайсьці ў востры конфлікт з левым крылом партыі „Гоміндан“, у якую да самага апошняга часу ўваходзілі ўсе бяз розьніцы соцыяльнага стану, ў тым ліку і камуністыя. „Гоміндан“ ходам падзеяў павінен быў раскалоцца на правых і левых і ў абстаноўцы вайны паміж абодвымі гэтымі часткамі „Гоміндану“ павінна была пачацца хатняя вайна.

Пасьля заняцьця кантонскімі войскамі Шанхаю, Нанкіну і іншых провінцыяў, левае крыло „Гоміндану“ пачало рыхтавацца да гэтае хатняе вайны і ўзброіла ўсіх рабочых у Шанхаі.

Наогул Шанхай, па думцы камуністых, павінен быў адыграць ролю Петраграду ў кітайскай камуністычнай рэвалюцыі і адтуль, з Шанхаю, кітайскія бальшавікі зьбіраліся пачаць сваё наступленьне на правых гоміндanaўцаў.

### Кітайскі Ленін — Ванг-Тін-Вэй.

Найвыдатнейшым правадыром гэтага левага крыла „Гоміндану„ быў Ванг-Тін-Вэй, які прымаў удзел у кітайскай рэвалюцыі яшчэ ў 1911 годзе.

Пасьля сьмерці Сун-Ят-Сэна ў 1924 годзе роля Ванг-Тін-Вэя вельмі вырасла і ён быў выбраны старшынёю Выканаўчага Камітэту партыі „Гоміндан“

з восені, дык міма гэтага, барацьба з сьметнякамі (зельлем) вясною і падчас дагляду бульбы, была-б труднаю. Найлепей можа ўдацца на гэткай навіне авёс і проса бяз ніякага гнаеньня.

Гэтыя расьліны якраз тым і цэнныя, што даюць высокія плацы на сьвежа выкарчаваных навінах. Пасьля гэтых расьлінаў магла-б яшчэ пайсьці грэчка і толькі пасьля яе — бульба.

## Корэспондэнцыі.

### Балячкі.

(З Горадзеншчыны).

Ў 1923 годзе прыехаў да суседняга двара Паплаўцы камісар зямельнае установы з каморнікам і пачалі мерыць двор з мэтаю распарцаляваньня. Дзеля таго, што ўласьнік двара ведамы барон Віспінг адмовіўся даць зямельнай установе плян, кажучы, што няма, дык камісар паклікаў старэйшых людзей з суседніх вёсак, каб паказалі дворныя граніцы. З вёскаю Кулі гэты двор меў кавалак супольнага выгану, які ўдаваўся шырокім клінам у панскую зямлю. Гэта камісару падалося падазронным і ён сказаў паклікаць яшчэ сьведак (справа ў тым, што пляну зямлі вёскі Кулі таксама ня было, бо ў 1915 годзе быў вывезены да Расеі і там застаўся). Пакліка볼 былі аж 13 сьведак з усіх ваколічных вёсак і паміж імі быў адзін селянін, які праз усё сваё жыцьцё перад вайною служыў палявым сторажам у гэтым двары. Зямельныя ўрадоўцы і гэным сьведкам не паверылі, а прывалаклі якогасьць жыда (які спадзяваўся адтрымаць кавалак зямлі), дык той жыд, каб дагадзіць „начальству“, як пачаў паказваць граніцы паміж дваром Паплаўцы і вёскаю Кулі, дык завёў каморніка ў вясковыя аселіцы пад самыя гароды, а бедныя сяляне аж за галавы браліся. Каморнік, бачачы ўжо, што жыд занадта перастараўся, трошкі ўсумніўся ў праўдзівасьці яго паказаньняў і, праводзячы граніцу, адступіў стольскі, сколькі знайшоў сам патрэбным. Ніякія довады, ніякія паказаньні сьведкаў не памаглі і ў выніку аказалася наступная сытуацыя: каля 24 дзесяц. уласнае вясковае сенажаці залічылі да супольнага з дваром выгану, далей каля 12 дзесяц. вясковага ўласнага і каля 24 дзесяц. супольнага з дваром выгану — адрэзалі і прылучылі да двара Паплаўцы. Такім парадкам, пазбавілі сялян вёскі Кулі выгану і магчымасьці праганяць скаціну на вадапой.

Праз усю зіму прадстаўнікі ад вёскі Кулі езьдзілі да Горадна, таўкліся ў зямельным урадзе і там іх цешылі тым, што справа яшчэ нясканчана, што будзе яшчэ раз перагляданца, ды перамерванца, цешылі тым, што прырэжуць для вёскі зямлі. Нарэшце, вясной 1924 году прыехалі ізноў і пачалі дзяліць двор на часьці для асаднікаў і таксама падзялілі і 24 дзесяц. супольнае зямлі і 14 дзесяц. уласнае вясковае для асаднікаў, а з 24-х дзес. сялянскае сенажаці зрабілі супольны выган. Ізноў ніякія стараньні і довады сялян нічога не памагалі. Гэтак справа цягнулася аж да канца 1926 году. Горадзенскі Зямельны . рад праз увесь гэты час справу ўсё адцягваў і ўсялякімі абяцанкамі пацяшаў сялян, кажучы, што тагды, як справа будзе аканчальна вырашацца ў асобнай Камісіі пры Акружным Зямельным Урадзе, дык тагды яны паведамяць сялян, потым казалі, што тымчасам сяляне могуць сабе карыстацца, як і карысталіся да гэтага часу. У працягу часу ад 1924 да 1926 году зямельны камісар колькі разоў прыяжджаў у вёску, то вызываў ў Горадзен прадстаўнікоў ад вёскі, рабіў пратаколы і дазнаньні.

Аж... адтрымоўваюць сяляне павесткі да Міравога Суда,—гэта асаднікі, якіх надзялілі вясковаю зямлёю падалі ў Суд усю вёску за патраву. Заварушыліся сяляне і сунуліся да зямельнага камісара, а там ім дый паказваюць плян двара, ўжо зацьверджаны камісіяй, на якую абяцалі і прадстаўнікоў вёскі паклікаць, дый падпісаны прэзэсам Акружнога Зямельнага Ўраду. А ў тым пляне і надзелы асадньчыя адмечаны і вясковая зямелька так сама парэзана на надзелы. Апусьцілі галовы нашыя бедакі і ня ведаюць, што рабіць. Прапажа дый годзі. Аж... як на якое шчасьце, адтрымоўмаюць сяляне з Расеі плян свае вёскі (праслаў былшы старшыня нашае воласьці, — ён застаўся ў Расеі). Страхнулася вёска, ды ізноў сунуліся да Горадна, а там і не прызнаюць старога пляну, які быў зроблены губэрнскім каморнікам у 1873 годзе, — яны, бач, зрабілі свой новы і зацьвярдзілі. А ня хочуць яны прызнаваць вясковага пляну, таму што прыдзецца перадзельваць усю зямлю ў двары на-нова і трэ' будзе даваць гдзесьць у другім месцы зямлі тым асаднікам, якіх пасадзілі на сялянскай зямлі. Падумалі, падумалі сяляне, плюнулі на ўсё

---

і Кантонскага Ўраду. Масква адразу зьвярнула ўвагу на гэтага здольнага, інтэлігэнтнага і спрытнага рэвалюцыянэра. І вось Ванг-Тін-Вэй пакідаець у 1926 г. Кантон і едзе ў Эўропу, ці лепей кажучы, ў Маскву, дзе яго абрабляець Сталін, Бухарын і іншыя маскоўскія бальшавікі.

Распрацоўваецца цэлы плян кітайскае пролетарскае рэвалюцыі, на чале якое павінен стаць Ванг-Тін-Вэй, як у свой час на чале бальшавіцкае рэвалюцыі стаў Ленін. Каб зразумець вялікую ролю Ванг-Тін-Вэя, трэба сказаць, што ён, да ад'езду свайго ў Эўропу, быў ня толькі старшынёю „Гоміндану“ і Кантонскага Ўраду, але таксама і палітычным кіраўніком вышэйшае ваеннае школы на востраве Вампу, якая дала ўсіх вышэйшых вайсковых начальнікаў кантонскае арміі, ў тым ліку і гэнэралісімуса Чан-Кай-Шэка.

### Кітайскі Гарыбальды.

Гэнэрал Чан-Кай-Шэк, правадыр і галоўны камандзер кантонскае арміі, яшчэ зусім малады чалавек і маець усяго 34 гады. Перамогі высунулі яго на верх кітайскае рэвалюцыі. І вось, пасьля заняцьця Шанхаю, раптам зьяўляецца ў Шанхай Ванг-Тін-Вэй з сваім плянам рэвалюцыі, апрацованым у Маскве. Першы візыт Ванга быў да Чан-Кай-Шэка. Гісторыя калі-нібудзь раскажа нам пра тую трагічную размову, якую вёў Ванг-Тін-Вэй з Чан-Кай-Шэкам у Шанхаі, і якая зьявілася паваротным пунктам у Кітайскай Нацыянальнай Рэвалюцыі.

### Банкруцтва маскоўскага пляну. Расстрэл Ван-Тін-Вэя.

Плян Ванг-Тін-Вэя быў чыста бальшавіцкі і палягаў на тым, каб побач з нацыянальнаю арміяю стварыць Чырвоную Гвардыю і потым пачаць хатнюю вайну. Першым яго шагам было ўзбраеньне шанхайскіх камуністых і рабочых. Невядома, як-бы пайшлі кітайскія здарэньні, каб Чан-Кай-Шэк даў час Ванг-Тін-Вэю замацавацца. Драма разыгралася хутчэй. Чан-

дасталі да свайго пляну данную крэпасьць ад 1873 году з архіву (II праверачнай камісіі) дый перадалі ўсю справу праз адваката ў Горадзенскі Акружны Суд. Чым гэта ўсё скончыцца — няма ведама. Круцілі бедных сялян, круцілі, коштаў панясьлі ўжо многа і цяпер, перадаўшы ў Суд, таксама будзе каштаваць нямала. А ўсё за што? За сваю-ж уласную зямельку. Ну, і дзе-ж праўда на гэтым прыгожым сьвеце?

Хочацца ўжо скончыць сваё пісаньне, але-ж не магу, каб яшчэ не ўспамянуць тут пра самую парцэляцыю двара Паплаўцы. Прывяду тут толькі адзін вельмі яскравы факт, які ахарактарызуе ўсё наогул. Аднаму селяніну (праваслаўнаму) з гэтае-ж вёскі, які мае ўсяго 3 дзесяц. зямлі і 2-х дарослых сыноў, — далі ўсяго-на-ўсяго толькі 1 (адзін) гэктар зямлі, на якой ніколі нічога ня сеялася і не расло, а другому (каталіку), які таксама меў 3 дзесяц. (потым ён іх прадаў, купіў хату і пабудаваўся), далі 12 гэктараў найлепшай зямлі і толькі дзеля таго, што ўмеў дагадзіць...

Дык вось гэткіх выпадкаў на абшары нашае Бацькаўшчыны можа і не адзін спатыкаецца. Дзе-ж выхад з гэткага палажэньня. Якія спосабы ўжываць, каб ухіліць падобныя непаразуменьні?

А. Кулька.

## Голас чытача.

Калі наракаем на істнуючы стан, на тыя ці іншыя зьдзекі, якія чыняць нам, на туюю цемнату, няпэўнасьць і нестаноўчасьць нашу, то прычыны гэтага мы не павінны шукаць толькі ў зьвірішчах гаспадарчых, але і ўнутры нас саміх — у суме стараньняў і высілку волі, якая паднімае душу і сэрца.

Праўда, знаходзімся пры вельмі кепскіх варунках, каб пазволіць свабоднаму праяўленьню творчасьці духу. Аднак-жа, гэта нас не павінна супыняць, бо ў прыродзе жывое істоты ляжыць імкненьне да вызваленьня з-пад цяжару, які перашкаджае свабоднаму руху яе.

Наш цяжар у нашай неарганізованнасьці.

Калі выдатнейшыя дзеячы і прадстаўнікі нашыя граюць ролю крылоўскага — лебедзя, рака ды шчупака ў справе цягненьня возу—аб'яднаньня Беларусаў, дык што ўжо казаць аб меншай важнасьці сьмяротных!...

У той час, калі трэ' было-б крыкнуць: „разам! адзін за ўсіх, а ўсе за аднаго!“ ды працаваць перш за ўсё над самым сабою, каб пасьля бачыць, хто працягвае руку, каб ухваціць за нос ды ў свой час сьцебануць пугаўём.

Дык, не! Сель-саюзаўцы адкрываюць адны дзьверы, грамадзістыя — другія, а Паўлюкевіч у „пышную“ салю так здаецца і запрашае...

А нашы ідуць ды на раздарожжы пытаюцца: „куды, братко?“. „Ў хадэцыю“!—адказ. „Што гэта, гдзе гэга“?—нас пытаюцца. Ня ведаю!

І сьмех бярэ і на плач зьбіраецца, слухаючы такія рэчы.

А нашы рэпрэзэнтанты пішуць, друкуюць, лаюцца.

Палітыканы! парадзьцеся са сваім суменьнем ды ўступеце месца кіраваньня намі шчырэйшым змагаром за дарагую Беларусь!

А мы — за навуку, за працу, за гадаваньне свае душы, каб быць самымі сабою.

За коопэрацыю, як найбольш блізкі спосаб да зьдзейсьненьня ідэі аб'яднаньня.

У нашай натуры ляжыць некая апатыя, нахіл да адасабленьня. Ат, закурыў люльку ды прысеў на прызьбу падумаць аб зьедзеных аплатках, альбо паслухаць, як кішкі марша граюць і больш нічога.

Браты! скіньма гэтую сьпячку!.. Пагаманем аб будучым годзе! Чым палепшыць ураджай?...

Як збавіцца ад паразыта пасярэдніка крамара, які сьсе нашыя сокі?

Залажыць свой коопэратыў! Паслухаць газэту, што робіцца на сьвеце?.. Чаму і за што плацім падаткі за сваю зямлю?.. Што нам за гэта належыць?

---

Кай-Шэк на першым-жа кроку спыніў усю працу камуністых. Як паведамляюць газэты, Ванг-Тін-Вэй расстрэлены ваенным судом Чан-Кай-Шэка, а ўся Чырвоная Гвардыя абязброена. Расстрэлам Ванга пачынаецца паварот Кітайскае Нацыянальнае Рэвалюцыі процiў камуністых і проці Масквы.

Усьлед за расстрэлам Ванга, ў Шанхаі на чале ўраду становіцца правае крыло „Гоміндану“, паслушнае Чан-Кай-Шэку. Такі-ж самы ўрад творыцца ў Нанкіне. Газэты прынясьлі нам апошнія сэнсацыйныя весткі: у Кантоне таксама адбыўся пераварот і, пасьля кароткага бою, прыхільнікі Чан-Кай-Шэка захапілі ўладу ў свае рукі. Гэнэралісімус Чан-Кай-Шэк яшчэ ня можа сказаць, што ён перамог камуністых прыхільнікаў Ванга ды Савецкае Расеі, але шаля перамогі схілілася сягоньня ў яго бок. Калі яму ўдасца заняць Ханкоў і Пэкін, дык гэта будзе Кітайскі Гарыбальды, які злучыць увесь Кітай пад сьцягамі «Гоміндану», пад сьцягамі палітычнае і эканамічнае незалежнасьці ўсяго кітайскага народу. Няхай сабе камуністыя ў Маскве рвуць на сабе валасы, няхай сабе „Камінтэрн“ выпушчае адозву процiў Чан-Кай-Шэка і называе яго здраднікам. Нічога не паможа. Плян Масквы не падышоў да Кітаю і лопнуў. Больш - менш зьвязаны з такім нечаканым паваротам кітайскіх падзеяў і тыя няпрыемнасьці, якія перажыло Савецкае Пасольства ў Пэкіне і Савецкае Консульства ў Шанхаі. У Пэкіне кітайская паліцыя дык проста ўчыніла гвалты над савецкімі служачымі, дашчэнту разьбіла і абрабавала ўсе будынкі савецкага пасольства. У Шанхаі абышлося аднэй рэвізіяй і арыштам. У зьвязку з кітайскімі няўдачамі, бальшавікі паднялі трывогу. У Маскве і іншых гарадох выносяцца рэзалюцыі протэсту. Але гэтымі рэзалюцыямі ўжо нічога не паможаш. Ванг-Тін-Вэй расстрэлены, а на яго месца кітайскія камуністыя ня могуць высунуць нікога.

Падаў *В.*

Абталкаваць, што мы людзі, а ня нейкія гусі і што нас нямала, што мы маем вагу.

Палітычныя арганізацыі — добрая рэч, але мы заслабыя і паміж намі ёсьць ня зусім сумленныя людзі; трэба даведацца, хто яны?..

Перш за ўсё арганізуймася гаспадарча-культурна: выпісвайма кніжкі, слухайма, разважайма...

Хай дзеці, вучачыся ў школе, вучацца арганізавацца, пачынаючы з больш даступных ім рэчаў — абароны слабейшых ад злых сільнейшых.

Хто пазнаў што — няхай расказвае другому! Вучэмся, ў навуцы будучына!

Калекі, згубіўшыя ногі і рукі на вайне за няведамую ім справу, хай крычаць:

Усе! усе! разам! Дубцы ломяцца, але венік не!

*Дзед.*

# ДЗІКІ ГВАЛТ.

27 сакавіка студэнт унівэрсытэту Стэфана Баторага тэхнічны працоўнік газэты «Бел. Дзень» М. Тулейка вяртаўся ў Вільню пасьля сьвятаў. На ст. Баранавічы за тое, што ў вагоне з колегамі і колежанкамі гаварыў пабеларуску, быў арыштованы паліцыянтам № 1951 і заведзены на пастарунак. На пастарунку вывядоўца у цывільным пачаў „badać" гр. Тулейку і падчас гэтага «баданьня» біў яго па галаве, рваў за валасы і лаяў бруднымі словамі парасейску. Рабілася гэта ў прысутнасьці 2-х паліцыянтаў №№ 1951 і 1464. З пастарунку пасьля рэвізіі быў адведзены да павятовае каманды паліцыі, дзе дзяжурны пшодовнік зрабіў пратакол і адпусьціў студэнта. Да гэтае справы мы вернемся ў наступным нумары, а цяпер хочам запытаць у прадстаўнікоў улады, ці доўга яшчэ розныя крыміналістыя злачынцы і будуць рэпрэзэнтаваць уладу польскае дзяржавы на мясцох?

# Аб усім патроху.

Распараджэньнем Міністра Унутраных справаў дня 28 сакавіка разьвязана Гарадзкая Рада гораду Вільні.

Як чуваць, выбары новай рады адбудуцца праз тры тыдні.

Даўно ўжо Вільня чакала гэнага дня, бо гаспадарка бышай рады, выбранай яшчэ ў 1919 годзе, давяла Вільню амаль да банкруцтва.

### Дзе граніца жыцьця?

Парыскі лекар др. Бушан зрабіў цікавую апэрацыю на сэрцы пацыенткі, якую пераехаў самаход.

Колы самаходу пераехалі цераз яе грудзі — сьмерць наступіла адразу.

Па сьмерці доктар, адкрыўшы яе грудную клетку, пабачыў, што правы бок сэрца лопнуў, творачы рану у дзесяць сантымэтраў даўжыні.

Лекар зашыў рану і пачаў сэрца масаваць.

У мінуту пасьля сэрца ад'жыло, пульс даўся выразна і лёгка адчуць.

Праца сэрца і кружэньне крыві цягнулася 35 мінут, пасьля жанчына ізноў памёрла.

Другая сьмерць наступіла ад цяжкага скалечаньня унутранасьцяў.

Др. Бушан цьвердзіць на падставе гэтае апэрацыі, што ў выпадку параненьня сэрца, напрыклад нажом, мерцьвяка можна ўваскрасіць, калі апэрацыю зрабіць зараз-жа.

Бачым, што граніцы між сьмерцяй і жыцьцём, дзякуючы развіцьцю веды, зьмяняюцца.

### Чары сільнейшыя за прыказы ў Кітаі.

Парыская газэта „Matin" падае цікавыя даныя аб спосабе ваяваньня ў Кітаі.

Агульнаю ёсьць мэтода перакупліваньня жаўнераў працўніка гэткім спосабам, што гэнэрал, які сёньня меў армію ў 50.000 чалавек, можа на заўтра ня мець ніводнага салдата.

Далей, войскі Чан-Тсо-Ліна ў часе паходу на поўдзень затрымаў пэўны чараўнік, які цьвярдзіў, што духі продкаў працівяцца маршу на Кантон.

Сын Чан-Тсо-Ліна мусіў шукаць і знайшоў другога чараўніка, які прыказаў жаўнерам абмачаць стрэльбы ганучамі, вымачанымі ў крыві, каб гэтым „прагналі" чары — і тагды толькі ўдалося скланіць жаўнераў да далейшага паходу.

Гэнэралы робяць сабе вялікія капіталы, прадаючы проста сваіх жаўнераў.

Вялікшая частка гэнэралаў мае з гэтае крыніцы вялізарныя капіталы, якія яны паскладалі ў заграніцчныя банкі.

З жаўнерскай пэнсіі яны забіраюць сабе чацьвёртую часьць, а часта замест грошай даюць жаўнерам опіум. Як выглядае здольнасьць да бою жаўнераў, кормленых опіумам, можна сабе ўявіць, калі вядома, што, пакурыўшы опіуму, чалавек сьпіць, як няжывы.

Рэкруцкія наборы адбываюцца ў прысутнасьці ката.

Калі ёсьць вельмі мала ахвотнікаў рэкрутавацца, тады кат выбірае першага лепшага разявяку і сьцінае яму галаву дзеля заахвочаньня іншых.

### Бібліяфільская ліцытацыя кніг.

Управа Таварыства польскіх бібліяфілаў просіць нас падаць да агульнага ведама, што 4 і 5 гэтага траўня а 6 гадзіне ўвечары ў памешканьні пры Унівэрсытэцкай вуліцы № 3 (ўваход побач з Дэканатам Мастацкага Аддзелу У.С.Б) адбудзецца бібліяфільская ліцытацыя кніг. Выстаўленыя на аукцыён рэчы, а таксама і каталёг, які зьмяшчае 95 рукапісаў, 272 друкі і 21 адбітку, можна будзе аглядаць на месцы напярэдадні аукцыёну, г. зн. 3 траўня ад 5—8 г. ўвечары ў прысутнасьці дзяжурных сяброў Т-ва Польскіх Бібліяфілаў.

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Pogoń" Друк. „Рах", вул. Сьв. Ігната 5.